# Памяці вучонага



## КАЗІМІР АДАМАВІЧ РЭВЯКА



12 ліпеня 2012 г. пасля цяжкай хваробы, якая не дазваляла яму працаваць некалькі апошніх гадоў, пайшоў з жыцця вядомы даследчык антычнасці, доктар гістарычных навук, прафесар кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў Казімір Адамавіч Рэвяка.

К. А. Рэвяка нарадзіўся 9 жніўня 1937 г. у вёсцы Смалянікі Баранавіцкага павета Навагрудскага ваяводства (зараз – Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці). У 1955 г. скончыў сярэднюю школу, затым паступіў у бібліятэчны тэхнікум, па заканчэнні якога атрымаў дыплом з адзнакай. Але захапленне гісторыяй антычнасці прывяло юнака на гістарычны факультэт БДУ, які Казімір Адамавіч скончыў у 1962 г. Потым з 1962 па 1967 г. працаваў выкладчыкам у вясковай Сінкевіцкай школе (Лунінецкі раён), затым у Чырвонабярэжскім сельгастэхнікуме (Жлобінскі раён). Гэта былі гады не толькі выкладчыцкай працы, але і сур'ёзных навуковых даследаванняў па старажытнарымскай гісторыі пад кіраўніцтвам прафесара Ф. М. Нячая. Стаўшы аспірантам, К. А. Рэвяка даволі хутка падрыхтаваў да абароны кандыдацкую дысертацыю «Роля рымскага і італійскага плебса ў другой Пунічнай вайне». Дысертацыя была абаронена ў 1973 г., апанентам выступаў адзін з самых вядомых савецкіх антыказнаўцаў А. Г. Бакшчанін. У сваёй дысертацыі К. А. Рэвяка здолеў раскрыць прычыны хуткага аднаўлення рымскай арміі пасля яе поўнага разгрому Ганібалам пры Канах, і яго вывады зараз сталі палажэннямі падручнікаў і дапаможнікаў для студэнтаў.

З 1972 г. К. А. Рэвяка працаваў на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў, спачатку выкладчыкам, затым – дацэнтам, а з 2002 г. – прафесарам. У 2001 г. абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Барацьба Рыма і Карфагена за сусветнае панаванне». Апублікаваны 3 манаграфіі: «Пунічныя войны» (1988), «Войны Рыма з Карфагенам: асноўныя тэндэнцыі і накірункі гістарыяграфіі» (2001), «Антычная спадчына на Беларусі» (2000) і больш за 100 артыкулаў і тэзісаў дакладаў навуковых канферэнцый. Манаграфія К. А. Рэвякі «Пунічныя войны» да гэтага часу з'яўляецца адзінай абагульняючай працай па гісторыі ўсіх трох Пунічных войнаў Рыма з Карфагенам не толькі ў беларускім, але і ва ўсім постсавецкім (а раней – савецкім і расійскім) антыказнаўстве. Яна ўключана ў спіс абавязковай літаратуры па курсу гісторыі антычнасці не толькі для ўніверсітэтаў Беларусі, але і іншых краін (напрыклад, у Маскоўскім універсітэце).

У 1996 г. з вучоным Паўднёва-Чэшскага ўніверсітэта І. А. Лісавым К. А. Рэвяка выдаў кнігу «Антычнасць у імёнах, тэрмінах і назвах» – першы навуковы даведнік па антычнасці ў СНД. Па пытаннях антычнай культуры ў тым жа суаўтарстве апублікавана кніга «Слодыч мудрых рэчаў» (1993). Разам з І. А. Лісавым апублікаваны ў 1993 г. «Уводзіны ў гісторыю старажытнага Рыма».

Артыкулы К. А. Рэвякі публікаваліся ў Расіі, Казахстане, на Украіне, Чэхіі і інш.

Вялікай заслугай К. А. Рэвякі з'яўляецца яго актыўны ўдзел у стварэнні першых беларускіх школьных падручнікаў па гісторыі. Ён – адзін з аўтараў падручніка для сярэдняй школы па гісторыі старажытнага свету, шэрагу вучэбных дапаможнікаў. Створаны ім і вучэбныя дапаможнікі для ўніверсітэтаў, адзін з якіх – «Антычнасць на Беларусі» (1999).

Шмат гадоў К. А. Рэвяка курыраваў работу студэнцкага навуковага гуртка кафедры «Антычнасць і сучаснасць», які існуе ўжо каля 30 гадоў. Любоў кіраўніка да антычнай гісторыі перадалася многім студэнтам-гуртакоўцам, і зараз нямала былых гуртакоўцаў маюць ужо навуковыя ступені. К. А. Рэвяка вызначаўся высокім узроўнем прафесіяналізму, выключнай працаздольнасцю, надзвычай сумленнымі адносінамі да працы. Яго вельмі паважалі і любілі калегі-выкладчыкі і студэнты.

Светлая памяць аб добрым, інтэлігентным чалавеку і вучоным назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў асабіста і па яго кнігах. Пахаваны Казімір Адамавіч у той самай вёсцы, дзе некалі скончыў школу і выправіўся ў доўгую жыццёвую дарогу за ведамі для сябе і іншых людзей.

***В. А. Фядосік,***
доктар гістарычных навук, прафесар,
загадчык кафедры гісторыі старажытнага свету
і сярэдніх вякоў
***М. С. Корзун,***
доктар гістарычных навук, прафесар
кафедры гісторыі старажытнага свету
і сярэдніх вякоў